# ПАГОНЯ

Чацвер
16 верасня 1999 г.
№ 55 (432)
Кошт 50.000 руб.

## Гарадзенскія спецслужбы супраць маскоўскай біды

**У Гродне і Гарадзенскай вобласці міліцыя прымае ўзмоцненыя меры па перадухіленню магчымых тэрарыстычных актаў. Гэта звязана з тым, што Беларусь знаходзіцца ў саюзе з Расіяй, і нармальнай мяжы паміж краінамі няма.**

Як паведамілі ПАГОНІ ў прэс-службе абласной міліцыі, па ўсёй вобласці будзе ўзмоцнены пашпартны рэжым. Супрацоўнікі міліцыі будуць праводзіць рэйды па месцах пражывання грамадзянаў з краінаў СНД. Асаблівая ўвага будзе нададзена «асобам каўказскай нацыянальнасці».

У адзеле пагранкантролю памежнага атрада нам адказалі, што ніякіх надзвычайных антытэрарыстычных мерапрыемстваў не праводзіцца.

«Сітуацыя пакуль спакойная»,- паведамілі ПАГОНІ ва ўпраўленні па надзвычайных сітуацыях Гарадзенскай вобласці. «Але нашыя супрацоўнікі абавязкі свае ведаюць і калі будзе неабходна прымуць адпаведныя меры».

**Павал Мажэйка**

## Каровы мяняюць прапіску

**Сёлетняе неспрыяльнае надвор'е адмоўна адбілася на вытворчасці прадукцыі сельскай гаспадаркі Астравецкага, Смаргонскага, Ашмянскага ды Івейскага раёнаў Гарадзеншчыны. Асабліва тут пацярпела жывёлагадоўчая галіна.**

Кіраўніцтвам вобласці прынята рашэнне перадаць з найбольш слабых гаспадарак у эканамічна моцныя звыш пяці тысяч галоваў буйной рагатай жывёлы. Пагалоўе накіравана ў калгасы і саўгасы Ваўкавыскага, Мастоўскага, Гарадзенскага, Шчучынскага, Берастаўскага раёнаў, у якіх нарыхтавана дастаткова фуражу - ад 10,3 да 8,6 цэнтнераў кармавых адзінак на адну ўмоўную галаву КРС.

У вобласці адчуваецца недахоп сенажу. Яго нарыхтавана на 400 тысяч тон меней, чым летась. І тым не менш, ад бяскорміцы сваю жывёлу перадаюць у гаспадаркі нашай вобласці таксама тыя рэгіёны Беларусі, якія не здолелі нарыхтаваць нават мінімальнай колькасці кармоў.

**Сцяпан Ярашчук**

## Чакаем лёду ў лістападзе

**Гарадзенскія заўзятары хакейнага спартовага клуба «Нёман» спадзяюцца, што праз два месяцы яны ўбачаць любімую каманду ў новым лядовым палацы спорту. Кіраўніцтва будаўнічамантажнай фірмы «Гроднапрамбуда», генеральнага падрадчыка, абяцае здаць аб'ект да лістапада. У зале з'явіцца першае на Беларусі табло памерам 3х20 на 2х20. Прадугледжаны спецыяльныя пляцоўкі для тэлекамераў. Вядзецца мантаж сучаснага абсталявання.**

Што да хакеістаў «Нёмана», частка якіх складае зборную Беларусі, то яны па-ранейшаму праводзяць трэніроўкі ў Менску ці Наваполацку. Раней арэндавалі лядовы стадыён і праводзілі календарныя матчы ў суседняй Літве. Для нармальнага трэніровачнага працэсу на бліжэйшыя два месяцы спартоваму клубу неабходна 12,5 мільярда рублёў. Гарадзенскі лёд значна скароціць гэтыя выдаткі.

**Уладзімір Кавалёў**




**17 і 18 верасня** - пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў. Вецер паўночна-ўсходні, 6-11 м/с. Тэмпература паветра ўначы +2...+7, удзень +12...+14.

# На Беларусі заўсёды былі тыя, хто мог яе абараніць...

**«У першым баі рыцарскага турнаю ўдзел бяруць яго мосьць Роланд МакГір з Шатляндыі і яго мосьць Лютавер кашталян Цмок з слаўнага мястэчка Воршы... Бітва!!!». Гэта былі словы гарольда-пана Скіргайлы - распарадчыка свята ў гонар Дня Беларускай Вайсковай Славы, якое адбылося на мінулым тыдні 8-га верасня, ля муроў старажытнай Каложы.**

Арганізатары свята, нарэшце, замест бясконцых размоваў, як гэта было ў мінулыя гады, зрабілі сапраўднае шоу. Славутую Аршанскую бітву вырашылі адзначыць рыцарскім турнірам. Пачатак яму быў пакладзены яшчэ ў мінулым годзе. Але тады ўдзельнічаў толькі адзін клуб, і таму двубоі насілі характар імітацыі.

Гэтым разам у Гродна з'ехаліся тры клубы з Менску: «Беларускі рыцарскі клуб», «Дзікае паляванне», і мінулагодні ўдзельнік, клуб «Калюмны». Сапраўдныя даспехі, баявыя мячы і сякеры, коні, сярэднявечная музыка, аглушальны вокліч «Вольня!», сакавіты тыпаж пана Скіргайлы з мовай а-ля Літоўская Метрыка - усё гэта, безумоўна, уражвала. Быў нават і галоўны прыз - «меч, каваны ў Гародні» нашым выбітным земляком, кавалём Юрасём Мацко. Усё давала надзею на выключнае відовішча. І гэтыя спадзяванні спраўдзіліся. Рыцары біліся, біліся зацята, часам да крыві. Напружанне і азарт былі такія, што **«сталёвыя хлопцы» забываліся** на правілы ды ішлі ў бой з адкрытым забралам. Тады гучала рэзкае - «Прекратите битву!»

Дарэчы, наконт мовы. Шмат у каго, падчас турніру ўзнікла шкадаванне, што гарадзенскі клуб рыцараў знаходзіцца пакуль што ў стадыі зараджэння. Бо рыцары з Менску практычна ўсе размаўлялі па-руску. Бяру на сябе смеласць папракнуць менчукоў. Калі і надалей яны будуць ставіцца да роднай мовы, як да выбрыкаў фанатаў і людзей ад БНФ, дык у хуткім часе іх будуць запрашаць не ў Гародню, а ў Шклоў на дажынкі...

Баі гледачам відавочна падабаліся. Толькі аднойчы ўспыхнуў бунт. Нейкі «шатляндзец» у бітве з беларускім рыцарам два разы згубляў меч, а арбітр усё роўна аддаў яму перамогу. «Ты не рыцар, ты не мужык, цябе два разы ўжо маглі забіць!» - утрапёна крычаў дзядзька з натоўпу, незадаволены такім выракам.

Пакуль рыцары адпачывалі перад фінальнымі баямі, дзяўчаты з клубу Арыны Вячоркі дэманстравалі сярэднявечныя танцы. Выступілі на свяце і барды, але развярнуцца ім не далі - співалі толькі па 3-4 песні.

- Класнае свята. Я ўжо другі раз тут і вяртаюся дахаты выключным аптымістам. У сталіцы такой энэргіі няма. Тут усё вельмі жыва. Пасля свята ўсе гэтыя сцягі на выканкамах выглядаюць недарэчна -кажа менскі бард Зміцер Бартосік.

Ягоны калега з Магілёва Ігар Мухін-Рабянок «павязе дадому шмат уражанняў».

- Я дужа ўсхваляваны святам. Усё роўна як вярнуўся ў 1991 год. Вельмі рады, што зрабіў у такую падзею свой унёсак».

...І вось фінальны бой! Выходзяць два найлепшыя з усяго турніру рыцары. Бліжэйшыя да іх гледачы пакрыху пачалі адсоўвацца назад. Сеча абяцае быць бязлітаснай. Аднак... «Перамог яго мосьць Аскольд фон Вільпсон з клюбу «Дзікае паляваньне»- зароў пан Скіргайла. Яму і быў уручаны меч у выглядзе крыжа, які Юрась Мацко «каваў тры дні і тры ночы».

- На нашай зямлі заўсёды былі тыя, хто мог яе абараніць, былі і святары, якія блаславілі абаронцаў на гэтую пачэсную справу. Ёсць на Беларусі і тыя, хто можа выкаваць ім зброю» - сказаў Юрась, уручаючы Аскольду ганаровы прыз.

Усё. Турнір скончаны. Пераможца апускае сцяг турніру - бел-чырвона-белы двукалор з крыжом Ярылы. Але некалькі сцэнь святкуючых не разыходзяцца:

- Шалкевіч!!!

Яны чакалі Віктара Шалкевіча. І хаця часу ў Віктара было хвілін дзесяць (улады дазволілі святкаваць толькі да 20 гадзінаў), ён з поспехам выканаў некалькі сваіх хітоў. А ягоная «Кароткая гісторыя Беларусі», дзе бальшавікі, немцы, палякі па чарзе псуюць беларусам танцы, паставіла у той вечар лагічную кропку.

...Адзін з арганізатараў імпрэзы ў прыватнай размове пазней зазначыў: «У наступным годзе мы будзем святкаваць Дзень Беларускай Вайсковай Славы ў цэнтры Гародні». Чакаем...

**Павал Мажэйка**
**Фота А. Чаркасава**



Каля дзвюх тысячаў чалавек святкавалі ў Гродне Дзень Беларускай Вайсковай Славы



Спявае магілёўскі бард Ігар Мухін-Рабянок



Сеча была бязлітаснай



Сапраўдны рыцарскі двубой на конях

## Ён забыўся выпісаць ПАГОНЮ... А Вы? Яшчэ ёсць час!!!

Падпіска на ПАГОНЮ прадоўжаная да **20 верасня**.

Нагадваем, што кошт падпіскі на нашу газету - 200 тысяч рублёў на месяц. Падпіска на квартал - 600 тысяч рублёў. **Падпісны індэкс - 63 124.**

Звяртаем Вашу ўвагу на тое, што ПАГОНЯ мае таксама падпісны індэкс для ведамаснай падпіскі - **63 348**. Гэта значыць, што нашу газету можна выпісаць па безнаяўнаму разліку на адрас прадпрыемстваў, устаноў, калгасаў і г. д. **Кошт ведамаснай падпіскі ў тры разы даражэй: на месяц - 600 тысяч, на квартал - 1 мільён 800 тысяч рублёў.**

## ПАГОНЮ трэба выпісаць:

- таму, што Вы будзеце атрымліваць аператыўную і аб'ектыўную інфармацыю пра грамадска-палітычнае жыццё ў Прынямонні і на Беларусі.
- таму, што падпісаўшыся на нашу газету, Вы не словам, а справай дапаможаце нам у гэты цяжкі час, унясеце важкі ўклад у пабудову новай Беларусі.
- таму, што гэта Ваша газета!!!

ГРАМАДСТВА

# Верасень 1939 ў Гародні

**Два гады таму, на чыгуначнам вакзале ў Кракаве, у чаканні цягніка, я папрасіў у вучня польскага ліцэя падручнік па гісторыі Польшчы навейшага часу. Гартаў сабе старонкі, потым сеў у цягнік... Ўвесь час да Варшавы ў мяне было ўражанне, што нешта такое пра пачатак другой сусветнай вайны з польскага сучаснага падручніка я ўжо чытаў... А ў Гародні прыгадаў. У савецкім падручніку гісторыі, калі пісалі аб падрыхтоўцы да Вялікай Айчыннай вайны, рэфрэнам ішла фраза «Не паспелі». Не паспелі пераўзброіць Чырвоную Армію на аўтаматы ППД, на танкі Т-34, на БМ-13 «Кацюшы», на новыя знішчальнікі, перавесці гарнізоны ў новыя фартыфікацыі на заходняй мяжы. У польскім падручніку: мала пабудавалі бамбардыроўшчыкаў «Лось» (адзін з лепшых ў Еўропе ў той час), не паспелі пераўзброіць войскі аўтаматамі «Морс» (штосьці накшталт савецкага ППД, але лепшы), не далі адпаведнай колькасці процітанкавых карабінаў «УР» у войскі (ўзор 1937 года, але ў верасні 1939 прабіваў браню ўсіх тагачасных танкаў Еўропы) і г.д.**

І тыя, і гэтыя, «не паспелі», - віна ў гэтым была палітыкаў, як пілсудчыкаў, так і камуністаў. Але сённяшняя нашая тэма - што адбывалася ў Гародні ў верасні 1939 года канкрэтна. Таму - нічога пра пакт Молатава-Рыбентропа.

Мала хто ведае, але мабілізацыя рэзервістаў у Гародні адбылася ў жніўні 1939 года, дакладней - 24 жніўня. Фактычна на працягу тыдня Гародня і ваколіцы рыхтаваліся да вайны: збіралі фураж для вайсковых коняў, медыкаменты для вайсковых шпіталёў і г.д. Ужо 30 жніўня на вокнах Гарадзенскіх дамоў з'явіліся крыжы з папяровых стужак. А ніводны з маіх знаёмых польскіх гісторыкаў не патлумачыў такога факту - 31 жніўня пад Гародняй пачалі капаць фартыфікацыйныя равы... Карацей кажучы, «для інфармаваных» вайна не была навіною ўжо напрыканцы жніўня. Але, канешне, 1 верасня для большасці гарадзенцаў было поўнай нечаканасцю - «надзея памірае апошняй». Немцы бамбардавалі Гародню з першага па 19 верасня толькі два разы, але ж вельмі няўдала. Гарадзенцы практычна не мелі аніякай інфармацыі адносна сітуацыі на фронце - дэтэктарныя радыёпрыймачы мелі толькі дзеці найбагацейшых сем'яў, - у асноўным яўрэйскіх. Кожны дзень «на фронт» адыходзілі навабранцы з горада, але дзе быў той фронт (дакладней кажучы - франты) ніхто не ведаў. Прыкладна 9 верасня з гарадзенскіх крамаў зніклі соль, мука, крупы, а за хлебам былі велізарныя чэргі.

Ва ўспамінах удзельнікаў абароны Гародні ў верасні 1939 года шмат гаворыцца пра дзеянні нямецкай агентуры у той час у Гародні ды ваколіцах. Але ўсё гэта лухта. Агентура, безумоўна, дзейнічала, але ж савецкая. Справа у тым, што пасля падпісання пакту Молатава-Рыбентропа, нямецкую агентуру «закансервавалі» да лепшых часоў (чытай да 1941 года). У межах «вобласці інтарэсаў СССР», г.зн. Гародні, немцам у той час «не было чаго рабіць». А вось у «вобласці дзяржаўных інтарэсаў Германіі» (**глядзі мапу**), недалека ад Гародні нямецкія агенты дзейнічалі ўвесь час вельмі актыўна. Яны між іншым фіксавалі адыход недабіткаў гарадзенскага гарнізона ў інтэрнаванне на Літву і масавыя забойствы афіцэраў і жаўнераў Войска Польскага на шляху да Сапоцкіна.

Першая і, відаць, найбольш вялікая акцыя савецкіх агентаў адбылася яшчэ ў першы тыдзень вайны (за дзесяць дзён да 17 верасня). Пад вёскай Чэхаўшчына быў амаль цалкам знішчаны вялізны склад амуніцыі. Па следчай справе гарадзенскага рэзідэнта разведкі штаба Чырвонай Арміі, якая знаходзіцца ў Маскве, бачна, што дзеянні гэтага чалавека, Шымона Відгорчыка, былі высока адзначаны ордэнам Чырвонай Зоркі. Польскія гісторыкі беспадстаўна запісваюць гэты чын нямецкай авіяцыі. Але ж яна не мела права дзейнічаць па сталых аб'ектах (масты, аб'екты камунікацыі і г. д.) «у зоне інтарэсаў СССР», а бамбардаваць магла толькі войскі, якія ішлі на «польска-германскі тэатр ваенных дзеянняў».

Паводле шматлікіх сведчанняў, як прафесійных польскіх вайскоўцаў, так і цывільнага кіраўніцтва на Заходзе Беларусі, - наступ савецкіх войскаў 17 верасня быў абсалютна неспадзяваным. Так і ў Гародні чакалі немцаў, а дачакаліся бальшавікоў...

Знакамітая польская вайсковая разведка ў той час ўжо не дзейнічала (паўцякалі ў Румынію) і таму...

Па-першае, абаронцы Гародні ўспрымалі разведчыя выпады нямецкіх матацыклістаў у ваколіцах Гародні як сведчанні аб хуткім наступе на Гародню. Прыкладна, палову дыверсіяў у Гародні ды ваколіцах «спісвалі» на немцаў. Так, напрыклад, калі «хтосьці ў цывільным» удала абрабаваў вайсковыя склады ў Гародні (скралі сучасныя карабіны, польскі «Маўзер», а пакінулі на складах вінтоўкі «Лебеля» ўзору 1886). Гэта азначае, што савецкая агентура займела лепшую зброю, чым абаронцы Гародні.

Толькі каля 11 гадзін мясцовага часу 18 верасня ў Гародні даведаліся аб наступе Чырвонай Арміі. Дакладных сведчанняў аб гэтай падзеі не было да апошняга моманту. Тым больш, ніхто з абаронцаў Гародні (за 17 дзён з пачатку вайны ў Гародні змянілася ажно пяць «галоўнакамандуючых» абаронай) не ведаў, што Гародня была другараднай мэтай савецкіх войскаў. Галоўная мэта Чырвонай Арміі была выйсці на межы, абумоўленыя ў тайных пратаколах пакту Молатава-Рыбентропа. Таму галоўны наступ быў у напрамку Беластока. Адтуль, прыкладна зранку 18 верасня, савецкія войскі правялі разведчую аперацыю ў ваколіцах занёманскай часткі Гародні. Гэта быў танкавы батальён, які дзейнічаў «танкамі паасобку». Галоўная мэта - даведацца, ці занятыя польскімі гарнізонамі фарты з паўднёвага захаду ад Гародні (там вельмі моцна пабілі палякаў у 1920 годзе). Фарты былі апусцелыя, і таму некалькі танкаў паспрабавалі зрабіць «разведку боем» у самой Гародні. Як на тыя часы, сувязь паміж наступаючай Чырвонай Арміяй і савецкай агентурай у Гародні была дасканалай.

Перад «танкавай пробай» Гародні 19 верасня, амаль усе адзінкі гарадзенскага гарнізона былі атакаваныя здалёк кулямётным і карабінным агнём. Найбольшыя страты былі каля «Старога маста» праз Нёман. Там стаялі гімназісты і вайскоўцы, «каб абараніць Гародню ад уваходу немцаў». Чаму не былі ўзарваныя чугуначны і дарожны масты - невядома, хаця трэба прызнаць, што практычна ўсе дні абароны Гародні ад бальшавікоў абаронай у вайсковым сэнсе гэтага слова ніхто не кіраваў. Першыя савецкія танкі, якія трапілі ў Гародню (паводле архіўных звестак, не больш пяці) былі амаль адразу знішчаныя на вуліцы Брыгіцкай (зараз - Карла Маркса), Маставой, Гувэра (зараз - Тэльмана). Адважныя гарадзенскія гімназісты выкарыстоўвалі бутэлькі з бензінам, якія толькі ў 1942 годзе атрымаюць назву «Кактэйль Молатава». Ва ўспамінах абаронцаў Гродна ёсць сведчанні і аб снайперскай стральбе па амбразурах танкаў...

Для сённяшніх жыхароў будзе больш цікава даведацца пра іншае. Савецкія танкі, якія патрапілі ў Гародню ў мэтах разведкі 19 верасня, мелі «правадыроў». Гэта былі супрацоўнікі вайсковай разведкі галоўнага штабу Чырвонай Арміі: Нохім Абрашкін, Ісраэль Відгорчык (магчыма, сын рэзідэнта ў Гародні), Іосіф Маргуліс, Барух Фрумкін (брат вядомага ў СССР эстраднага кампазітара і ўнук Міны Фрумкінай, якая трымала памятную для гарадзенцаў «лазню на Віленскай») ды інш. Шмат працы зрабілі для Саветаў гарадзенскія беларусы - гэта яны стралялі з кулямётаў і карабінаў па польскіх войсках з розных куткоў Гародні - Палестыны, «могілак», «Сакрэту». Прымяняўшы ролю бальшавіцкай прапаганды таго часу - папросту глупства.




**Фрагмент тапаграфічнай мапы ўзору 1940 года. На палях пазначаны «інтарэс Германіі», а стрэлкай - сучасная памежная застава імя Усава**

Калі Чырвоная Армія стала на межах «дзяржаўнага інтарэсу СССР» далёка на захад ад Гародні, можна было заняцца і справай Гародні. Тым больш, што з вайсковага пункту гледжання, гарадзенскі гарнізон з яго магчымасцямі быў дробяззю. Але гэтая «дробязь» без адзінага камандавання, амаль без амуніцыі, са зброяй з часоў першай сусветнай вайны, трымалася два дні - 20 і 21 верасня, трымалася гераічна. Адыход у «інтэрнацыю» на Літву праз Сапоцкіна-Калеты, неарганізаваны і спантанны, - гэта самая трагічная старонка абароны Гародні ў верасні 1939 года. Дэзарганізаваныя вайсковыя адзінкі перапынялі па дарозе ў Літву перадавыя атрады Чырвонай Арміі, бралі ў палон, а часцей расстрэльвалі на месцы. Каля шашы на Сапоцкіна стаіць крыж...

Тыя, каму падчас баёў 19-21 верасня даводзілася апынуцца паранеными ў руках чырвонаармейцаў, не заўсёды траплялі ў сталінскія лагеры. Дырэктар жаночай гарадзенскай гімназіі ўзгадвае, што параненых харцэраў на Рынкавай (зараз - Савецкай) плошчы чырвонаармейцы дабівалі багнетамі.

Ужо раніцою 21 верасня па Гародні пайшла хваля арыштаў. І не толькі польскай інтэлігенцыі ды чыноўнікаў, заможных яўрэяў і так далей. Частка беларускіх падпольшчыкаў з былога КПЗБ таксама патрапіла за краты (была падстава - ліквідацыя праз Камінтэрн кампартыі Польшчы ў 1936 годзе як «прадажнай»). Не залічваўся ім іх чын у верасні 1939 года, залічвалася толькі - працаваў для «кампетэнтных органаў» альбо не (г.зн. «ці працаваў для камуністычнай сістэмы, ці працаваў для камуністычнай ідэі»). Калі б я быў палякам, я ганарыўся б тым фактам, што ў гарадзенскай вязьніцы з 17 па 21 верасня 1939 не быў расстраляны ніводны камуніст. Чаму? Таму што напрыканцы дня 22 чэрвеня 1941 года ў гарадзенскай вязьніцы былі расстраляныя ўсе вязні: і палітычныя, і крымінальныя. Калі немцы занялі Гародню, яны распаўсюдзілі першую лістоўку для насельніцтва, прыкладна наступнага зместу: «...той, хто меў сярод сваякоў вязьняў у гарадзенскай вязьніцы, ласкавая просьба забраць трупы тых, хто быў расстраляны бальшавікамі...»

Нам не хацелася ў гэтым артыкуле прапаноўваць аніякіх высноваў для чытачоў. Толькі факты... У архівах Масквы, Варшавы, Берліна ёсць яшчэ шмат цікавага пра верасень у Гародні. І ў Гародні ў былым архіве абкама ды абласным ляжаць не кранутыя даследчыкамі матэрыялы. А вось ці гатовы мы да ўсёй праўды?

**Ігар Кавалеўскі**



**Польскі генералітэт у Гродне. 1936 год. Другі злева - камандзір «D.OK. III» - генерал Кліберг, - «добры жаўнер, але ніякі генерал». Ён працівіўся сярод іншых увядзенню аўтаматаў на ўзбраенне...**

# Мы павінны памятаць пра верасень 1939 года

## Заява Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны

**17 верасня 1939 года пачалося ўз'яднанне беларускай нацыі ў межах адной дзяржавы. Гэтай падзеі папярэднічалі 39 гадоў трагічнай гісторыі Беларусі першай паловы XX стагоддзя.**

**У пачатку XX стагоддзя ў выніку дэмакратычных заваёваў рэвалюцыі 1905 года беларусы паступова пачалі зноў набываць сваю этнічную адметнасць, адраджаць сваю мову, гісторыю і культуру. Гэтыя працэсы разгарнуліся на ўсёй этнічнай беларускай тэрыторыі, населенай 12-мільённым этнасам.**

**Аднак гэтае адраджэнне было спынена спачатку Першай сусветнай вайной, а потым і бальшавіцкім пераваротам 1917 года. У выніку гэтых падзеяў Беларусь страціла мільёны жыццяў, шмат хто апынуўся за межамі Бацькаўшчыны. Але 25 сакавіка 1918 года паўнамоцныя прадстаўнікі шматнацыянальнага беларускага народа абвесцілі ў Менску нашую незалежнасць на ўсёй сваёй этнічнай тэрыторыі.**

**Бальшавікі ў Смаленску мусілі 1 студзеня 1919 года пацвердзіць гэты лёсавызначальны акт і ўключыць у межы ССРБ усе беларускія землі. Аднак ужо праз некалькі тыдняў яны пачалі гандляваць нашай Бацькаўшчынай, і ў выніку дамоваў 1920 года з Латвіяй і Літвой, а таксама ў выніку ганебнай Рыжскай дамовы 1921 года ў межах БССР засталіся толькі шэсць паветаў былой Менскай губерні.**

**На тэрыторыі Заходняй Беларусі рэжым Пілсудскага пачаў татальнае вынішчэнне ўсяго беларускага, а на тэрыторыі БССР пасля некалькіх гадоў нацыянальнага адраджэння распачаліся масавыя рэпрэсіі ды ўзніклі шматлікія Курапаты.**

**У жніўні 1939 года пасля пакту Молатава і Рыбентропа быў здзейснены новы еўрапейскі перадзел, які выклікаў у верасні II сусветную вайну. 1 верасня фашысцкія бомбы ўжо падалі на Гродна, Брэст і Баранавічы, а тысячы беларускіх хлопцаў былі забраныя ў польскае войска і гінулі на польскай тэрыторыі.**

**Неўзабаве, 17 верасня 1939 года беларускія сяляне, якія былі ў Польскай дзяржаве людзьмі не першага гатунку, з музыкай і кветкамі сустракалі Чырвоную Армію.**

**Дзве вялікія часткі Беларусі - Заходняя і Усходняя - нарэшце аб'ядналіся, дзякуючы часоваму супадзенню савецка-нямецкіх глабальных інтарэсаў. Потым, 30 кастрычніка 1939 года, была перададзена Літве беларуская Вільня, Трокі, а крыху пазней - Друзгенікі. Страчаны Беласток з добрым кавалкам Белавежскай пушчы. Аднак ядро беларускіх земляў засталося захаваным да абвяшчэння незалежнасці ў 1991 годзе.**

**У сувязі з сённяшнімі інтэграцыйнымі гульнямі ТБМ нагадвае іх удзельнікам пра бясплённасць такіх намераў. Новай Рыжскай дамовы ўжо ніколі не будзе!**

**Алег Трусаў,**
**Старшыня Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, кандыдат гістарычных навук,**
**2 верасня 1999 года**

# Цуды беларускай эканомікі

**Адпаведна дадзеным Міністэрства Фінансаў Рэспублікі Беларусь, у рэспубліканскі бюджэт за студзень-жнівень 1999 года паступіла болей як 515 трыльёнаў беларускіх рублёў даходаў.**

Гэтую суму ў асноўным удалося сабраць за кошт:

- унутраных падаткаў на тавары і паслугі - больш за 195 трыльёнаў рублёў;
- непасрэдных падаткаў на даходы і прыбытак - болей як 120 трыльёнаў рублёў;
- даходаў рэспубліканскіх мэтавых бюджэтных фондаў - 42 трыльёны 900 мільярдаў рублёў;
- даходаў ад знешняга гандлю і знешнеэканамічных аперацый - 28 трыльёнаў 800 мільярдаў рублёў;
- падаткаў на ўласнасць - больш за 10 трыльёнаў рублёў і г.д.

Нагадаем чытачам, што, згодна з артыкулам 1 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1999 год», даходы рэспубліканскага бюджэта за ўвесь 1999 год планаваліся ў аб'ёме 414 трыльёнаў 824 мільярды беларускіх рублёў. Планы планамі, а даходы ўжо на першае верасня, паводле дадзеных Міністэрства Фінансаў, на 100 трыльёнаў рублёў вышэй за прагназуемыя Законам «Аб бюджэце...» Ці гэта не чарговы эканамічны цуд? Мо гэты цуд -статыстыка Міністэрства Фінансаў і Міністэрства статыстыкі ды аналізу!

Сапраўды, у Беларусі ў творацца цуды. Давайце паразважаем адносна перавыканання даходаў рэспубліканскіх мэтавых бюджэтных фондаў, а менавіта: рэспубліканскага фонда падтрымкі вытворцаў сельскагаспадарчай прадукцыі ды харчавання, рэспубліканскага фонда «Энергазберажэнні» і рэспубліканскага дарожнага фонда. Згодна з артыкулам 6 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1999 год», даходы рэспубліканскага фонда падтрымкі вытворцаў сельскагаспадарчай прадукцыі ды харчавання за ўвесь 1999 год - 29 трыльёнаў рублёў, рэспубліканскага фонда «Энергазберажэнні» - 92 мільярды рублёў і рэспубліканскага дарожнага фонда - 18 трыльёнаў 709 мільярдаў рублёў. Усе гэтыя лічбы ўжо дасягнутыя напрыканцы жніўня бягучага года, а ў верасні перавыконваюцца. Да канца 1999 года, такім чынам, паказчыкі будуць вышэйшымі на працэнтаў 35-50. Аднак у той жа час вытворчасць сельскагаспадарчай прадукцыі ды харчавання ў дачыненні да мінулага года знізілася на 33 працэнты. Дарогі, за выключэннем цэнтральнай часткі Гродна (чакалася «братанне» расейскага і беларускага кіраўніцтва ў Гродне - таму і дарогі зрабілі добрыя), не вытрымліваюць крытыкі. А энергазберажэнне стала амаль што дэвізам беларускага ўрада (асабліва напярэдадні зімы).

Як вынік: даходы павялічваюцца, вытворчасць зніжаецца, дарогі пагаршаюцца, а таксама беларусаў чакае снежань-люты з тэмпературай у жылых памяшканнях +15 градусаў Цэльсія. Мабыць, чытачам ПАГОНІ зразумела, што ў вышэйузгаданым ланцужку нешта нерэальнае... Канешне ж, - сапраўднае павелічэнне даходаў!

Не верце дзяржаўнай статыстыцы, але аналізуйце яе - вось вам наша парада!

Увесь поспех беларускай эканомікі і яе цуд толькі ў патрэбных для ўладаў разліках. Яны асаблівыя. Усе прагнозы і планы будаваліся з разліку 250 000 беларускіх рублёў за адзін даляр ЗША і 5% у месяц інфляцыі. А на сярэдзіну верасня бягучага года за адзін амерыканскі даляр даводзіцца выкласці нашыя паўмільёна рублёў (нават курс Нацыянальнага банка ўжо вышэй за 280 тысяч рублёў за даляр ЗША). Інфляцыя ж, адпаведна дадзеным Мінюста, амаль 10 працэнтаў у месяц (паводле незалежных, г.зн. неафіцыйных крыніцаў - 17,6 працэнта ў месяц у сярэднім з разліку інфляцыі за студзень-жнівень 1999 года).

Вось і ўсе поспехі ў выкананні бюджэту, росце вытворчасці, у набліжэнні да паказчыкаў эканомікі Беларусі 1991 года і так далей. Трэба толькі правільна лічыць. Аднак такі спосаб падліку - гэта аблік беларускага народа. Самі ж сябе і топім?

**Кацярына Зволін**

# Курсы валют

**На 15 верасня Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы валют.**

Даляр ЗША — 285.000 беларускіх рублёў. Еўра — 295.445,25. Нямецкая марка — 151.058,76. Расійскі рубель — 11.160. У параўнанні з учарашнім днём афіцыйны курс даляра ЗША ўзрос на 1.000 рублёў.

На «чорным» рынку наяўнай валюты ў Менску раніцай 15 верасня даляр куплялі па 485.000—490.000 і прадавалі па 495.000—500.000 рублёў. У параўнанні з учарашнім днём, курс не змяніўся.

# А цэны ляцяць, цэны...

Паводле інфармацыі Міністэрства статыстыкі ды аналізу Беларусі, за першы тыдзень верасня спажывецкія цэны ў краіне ўзраслі на 3,3 працэнта. З пачатку года спажывецкія цэны ўзраслі ў 2,18 раза.

**Дзмітрый Уласаў**

# Нацбанк даў задні ход

**Як паведамілі ў Нацыянальным банку Беларусі, у сувязі з часовымі абмежаваннямі аперацый на валютным рынку краіны Нацбанк прадаставіў права сваім галоўным упраўленням па абласцях і Менску выдаваць дазволы на ажыццяўленне разавых здзелак куплі-продажу замежнай валюты, якія перавышаюць абмежаванні.**

Нагадаем, што пастановай праўлення Нацбанка ад 26 жніўня абмежаванні вызначаны для суб'ектаў гаспадарання і ўпаўнаважаных банкаў у тысячу адзінак адной з замежных валют. Як адзначаецца ў прынятым наконт гэтага рашэнні, такія здзелкі на валютным рынку краіны павінны праводзіцца банкамі і суб'ектамі гаспадарання ў адпаведнасці з патрабаваннямі існуючага Палажэння аб парадку ажыццяўлення здзелак куплі-продажу замежнай валюты, а таксама канверсійных аперацый.

**Аляксей Арэшка**

# «Лукавыя» эканамісты вырашылі, што мы плацім мала

**У Беларусі будзе праводзіцца штоквартальная індэксацыя тарыфаў на электраэнергію для насельніцтва. Даручэнне Міністэрству эканомікі ажыццяўляць такую індэксацыю ўтрымліваецца ў спецыяльна прынятай пастанове Савета Міністраў.**

Да канца верасня г.г. Мінэканомікі павінна распрацаваць адпаведнае палажэнне аб індэксацыі. Як адзначана ў пастанове, гэта робіцца «ў мэтах набліжэння тарыфаў на электраэнергію для насельніцтва да ўзроўню фактычных выдаткаў». Цяпер насельніцтва аплочвае толькі каля 15 працэнтаў сабекошту выкарыстоўваемай электраэнергіі. Беларусь не ў стане забяспечваць сябе электраэнергіяй уласнай вытворчасці і змушана набываць яе ў суседніх краінах.

Запазычанасць краіны па гэтым артыкуле імпарту дастаткова вялікая. Напачатку жніўня 1999 года доўг Беларусі за электраэнергію, пастаўленую Расіяй, складаў 40,89 мільёна даляраў ЗША, Літвой — 66,81 мільёна даляраў ЗША.

**Сяргей Снегін**

# Рэзка павялічылася колькасць фальшывай валюты

**У Беларусі напрыканцы XX стагоддзя валютны рынак застаецца самым нецывілізаваным на ўсім свеце, праўда, за выключэннем некаторых дзяржаваў Экватарыяльнай Афрыкі.**

Яшчэ ў 1994-м годзе пры С.Багданкевічы ў Рэспубліцы Беларусь былі добрыя тэндэнцыі на валютным рынку краіны: стабільны курс нацыянальнай грашовай адзінкі, адзінства афіцыйнага курса з неафіцыйным, стабільная работа абменных пунктаў камерцыйных банкаў (як і дзяржаўных) і г.д. З другой паловы 1994 года са змяненнем палітычнага рэжыму змяніліся і эканоміка краіны; і ўзровень сярэдняга заробку грамадзянаў, і канешне ж, палітыка Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь.

Ні Т.Віннікава, ні спадар Алейнікаў нічога істотнага не прадпрынялі для нармалізацыі і развіцця «благанадзейных» тэндэнцыяў на валютным рынку краіны. Больш таго. Беларускі рубель здаў свае пазіцыі да непазнавальных велічыняў (з 11 500 рублёў за адзін даляр ЗША ў 1994 годзе да 100 000 беларускіх рублёў за адзін даляр ЗША на пачатак верасня мінулага года). За гэты перыяд амаль усе абменныя пункты па куплі-продажу валюты закрыліся (фактычна - 60 працэнтаў, фармальна -40 працэнтаў), тры камерцыйныя банкі збанкрутавалі, уклады насельніцтва ў даляравым эквіваленце знізіліся на 24,76 працэнта і г.д.

Пры П.Пракаповічы валютнага рынка (нецэнявога) фактычна няма. Затое ёсць ажно сем курсаў нацыянальнай грашовай адзінкі ды паўмільёна наяўных за адзін даляр ЗША:

1) афіцыйны курс Нацыянальнага банка;

2) курс біржавы на дадатковай сесіі;

3) курс нерэзідэнцкі (фактычна маскоўскі);

4) курс у абменных пунктах банкаў краіны;

5) рынкавы наяўны курс (на наш погляд, найбольш афіцыйны для нашых грамадзянаў і прыезджых);

6) рынкавы безнаяўны курс;

7) адвольны курс, што ўстанаўліваюць прадпрыемствы краіны (устанаўліваецца для аплаты тавараў, работ, паслугаў у будучым. Напрыклад, сёння пры аплаце тавараў, работ і паслугаў дзейнічае курс на 1.02.2000 года - 1 350 000 беларускіх рублёў за даляр ЗША!..)

Бардак на валютным рынку краіны - адным словам. Ад гэтага бардака пакутуюць больш за ўсіх звычайныя грамадзяне. Немажлівасць свабодна купіць замежную валюту ў абменных пунктах камерцыйных і дзяржаўных банкаў краіны вядзе насельніцтва да «ценявікоў». І калі тым «мянялам», якіх многія ўжо ведаюць у твар, - вялікі дзякуй; то заезджым, відаць, бліжэйшым часам будзе вельмі складана. Нягледзячы на тое, што ў верасні большасць прадпрымальнікаў Беларусі баставала, да нас на рынкі «завезлі» вельмі шмат фальшывых купюр. Як нам стала вядома ад гарадзенскіх «мянялаў», апошнім часам заезджыя фальшывамане-тчыкі пачалі паўсюдна прапаноўваць 100-даляравыя новага ўзору купюры ніжэй наміналу... Прычым з паласою, але без вадзянога знаку...

Маштаб стодаляравай банкноты ў беларускіх рублях - гэта істотна. І калі раней падробкі ў асноўным былі нікуды не вартымі, ды яшчэ ў 20 даляраў, адна даляравая купюра з даклененым нулём, 100 нямецкіх марак на амаль газетнай паперы, дык цяпер 100 даляраў і з паласою. Будзьце пільнымі!

**Максім Жмінда**

***P.S.:** Курс продажу ў абменніках дасягнуў 340 000 беларускіх рублёў за адзін даляр ЗША. Але для каго гэты курс? Афіцыйных паведамленняў пра затрыманне фальшываманетчыкаў пакуль ніхто не чуў.*

# На КПП больш рабаваць не будуць. Менш таксама...

**А.Лукашэнка падпісаў указ «Аб упарадкаванні збірання збораў за праезд аўтатранспартных сродкаў па тэрыторыі Рэспублікі Беларусь», якім з 1 кастрычніка 1999 года прыпыняецца дзеянне пункту «а» артыкула 10 Закона «Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1999 год» у частцы збору за карыстанне аб'ектамі інфраструктуры пры перасячэнні мяжы Беларусі цераз кантрольна-прапускныя пункты.**

Савету Міністраў Беларусі даручана ў двухмесячны тэрмін прывесці памер платы за праезд цяжкавагавых і буйнагабарытных аўтатранспартных сродкаў па аўтамабільных дарогах агульнага карыстання ў адпаведнасць з памерам платы, устаноўленым у суседніх дзяржавах. У Міністэрстве транспарту і камунікацый Беларусі станоўчым чынам ацанілі падпісанне кіраўніком дзяржавы гэтага ўказу. Як паведамілі ва Упраўленні знешнеэканамічных сувязяў Мінтранса, увядзенне згаданых збораў прывяло да таго, што міжнародныя аўтаперавозчыкі сталі аб'язджаць Беларусь па тэрыторыі суседніх дзяржаваў, а колькасць паездак замежных перавозчыкаў сёлета скарацілася ў параўнанні з папярэднім годам, у 4 разы. Напрыклад, колькасць паездак толькі польскіх перавозчыкаў праз тэрыторыю Беларусі скарацілася прыкладна ў 10 разоў. Таму адмена ўказаных збораў павінна садзейнічаць павелічэнню колькасці транзітных аўтамабільных перавозак праз тэрыторыю краіны.

**Аляксей Арэшка**

# Свабодны прафсаюз працягне страйк

**8 верасня ў Менску ў будынку Савета Міністраў у 11.00 адбылася нарада ў намесніка прэм'ер-міністра РБ Г.Навіцкага «Аб пытаннях, якія ўзніклі ў сувязі з увахадам у сілу з 1.09.99 года падпункта 1.22 пункта 1 Дэкрэта прэзідэнта РБ ад 4 жніўня 1997 года N14».**

На гэтую нараду не былі дапушчаныя прадстаўнікі стачачнага камітэта прадпрымальнікаў і свабодных прафсаюзаў прадпрымальнікаў Рэспублікі Беларусь (яны засталіся чакаць каля будынка Савета Міністраў). Нашыя калегі з дзяржаўнага прафсаюза прадпрымальнікаў «Садружнасць» «забыліся» ўключыць вышэйузгаданых прадстаўнікоў у спісы. Ну а чыноўнікі з Савета Міністраў, да якіх звярнуліся няўключаныя прадстаўнікі, 8 верасня ў 10.30 праігнаравалі просьбу шасці прадстаўнікоў (стачачнага камітэта, свабодных прафсаюзаў, рэгіёнаў і г.Менска) узяць удзел у дадзенай нарадзе.

Парадаксальна, але факт, што тыя, хто арганізаваў масавыя акцыі пратэсту ды выступленні, і дзякуючы якім стала ў прынцыпе магчыма дадзеная нарада, не былі дапушчаныя да нарады наогул.

На дадзенай нарадзе прысутнічалі Г.Навіцкі, А.Сазонаў, кіраўнікі выканкамаў, падаткавага камітэта і сілавых ведамстваў.

Як і належала чакаць, на нарадзе быў прыняты пратакол, у якім шмат фразаў кшталту «даручыць», «забяспечыць», «пашырыць», «рэкамендаваць» і д.п.

Ёсць некалькі станоўчых момантаў, указаных у пратаколе нарады, але яны чыста касметычныя. Ніводнага асноўнага пытання на гэтай нарадзе вырашана не было. Рабаўніцкі пункт 1.22 Дэкрэта застаецца ў сіле, талоны не адменены, прадпрымальнікаў будуць рабаваць, штрафаваць, пераследаваць у адміністратыўным парадку па фармальных прыкметах і г.д. Не вырашаныя дадзеныя пытанні з-за штрэйкбрэхеру ўсім вядомага прафсаюза, што заклікаў прадпрымальнікаў у самы разгар акцый пратэсту выйсці на працу (які і быў запрошаны на дадзеную нараду).

Пасля нарады ў Саўміне ў 13.00 адбылася нарада прадпрымальнікаў. Нарада была эмацыйная, але і яна не прыняла ніякіх рашэнняў. Свабодны прафсаюз прадпрымальнікаў настойваў на акцыях пратэсту, «Садружнасць» - на далейшай гульні «ў перамовы». Меркаванні падзяліліся. У выніку свабодны прафсаюз прыняў рашэнне пра стварэнне стачачнага камітэта (рэарганізацыі) з прадстаўнікоў свабодных і незалежных прафсаюзаў. Старшынёй стачачнага камітэта абраны Валерый Леванеўскі.

Стачачны камітэт прыняў рашэнне наконт распачынання актыўных акцый пратэсту - мітынгаў, забастовак з пераплненнем уплаты падаткаў ды іншых плацяжоў з 1.10.99. На 22 верасня прызначана аднадзённая агульнарэспубліканская папярэджальная акцыя пратэсту (рынкі па ўсёй рэспубліцы спыняюць працу на адзін дзень). 30 верасня прадпрымальнікі выходзяць на сумесны мітынг разам з рабочымі ў г.Менску і таксама спыняюць працу на рынку.

**Валерый Леванеўскі**

# Леванеўскі піша дэкрэты

**Лідар Гарадзенскага прафсаюза прадпрымальнікаў В.Леванеўскі прапануе А.Лукашэнку падпісаць у верасні распрацаваны прафсаюзам Дэкрэт «Аб некаторых мерах па ўдасканаленні працы індывідуальных прадпрымальнікаў пры рознічнай рэалізацыі нехарчовых тавараў».**

У прапанаваным праекце Дэкрэта ўказваецца, што сертыфікацыі і гігіенічнай рэгістрацыі не падлягаюць малыя партыі тавару (да 100 адзінак), прадаўцы такіх тавараў мусяць прадаваць іх з адзнакай «тавар не сертыфікаваны». Канфіскацыя тавара дапускаецца толькі праз рашэнне суда. Прапануецца дазволіць прадпрымальнікам прадаваць тавары за валюту.

Калі ўлады хочуць, «каб прадпрымальніцтва развівалася, няхай падпісваюць Дэкрэт», - каментуе сваю «заканадаўчую ініцыятыву» спадар Леванеўскі.

Усе, хто жадае пазнаёміцца з поўным тэкстам праекта Дэкрэта, могуць звяртацца ў рэдакцыю газеты ПАГОНЯ.

**Ул. інф.**

# «У рэабілітацыі Вам адмоўлена...»

Васіль Рыгоравіч доўга не мог зразумець, чаму памяць раптоўна ўсё часцей пачала вяртаць яго ў часы паўстагадовай даўніны. І той вокліч, нечаканы, як стрэл:

- Гэй, таварышч!

Сэрца скаланулася і нібыта пакацілася ўніз. Істоту апанавала млоснае здранцвенне. Вірлівае жыццё навокал імгненна прыцішылася. Аглухла шчабятанне жаўранкаў. Лёгкія белаватыя аблокі набрынялі злавеснай сінечаю. Травеньскі ветрык-гарэза, які дагэтуль зусім па-хлапчукоўску тузаў за косы бярозкі ля дарогі, скокнуў за прыдарожныя кусты і ледзь-ледзь шапацеў у лісточе, баючыся ўздыхнуць на поўныя грудзі.

Незнаёмцы ў цывільным абступілі, для адводу вачэй просяць закурыць.

- Вы Супрун? Мы былі ў школе. Выйшлі сустрэць, каб не размінуцца...

Ён ужо авалодаў сабою. Зразумеў, адкуль гэтыя «таварышчы», адзін з якіх спрактыкавана заходзіў за спіну. Ды яны і не таіліся. Паведамілі, што з Дзяржбяспекі. Ім даручана правесці вобыск на кватэры.Ператрус на вачах знямелага бацькі доўжыўся нядоўга. Забралі кніжку Язэпа Найдзюка «Беларусь учора й сёньня», выдадзеную ў час нямецкай акупацыі, а таксама «Баранавіцкую газету» з вершам арыштаванага маладога настаўніка «Песьня на чужыне».

Глыбінную сутнасць асаблівага вымаўлення слова «таварышч» Васіль Супрун зразумеў параўнальна нядаўна - напачатку 90-х. Спробы рэабілітацыі станоўчых вынікаў не давалі. Пераходзячы з кабінета ў кабінет ветлівых і падцягнутых службоўцаў, раптоўна адкрыў для сябе простую ісціну: тыя, з «органаў», і цяперашнія іх спадкаемцы - аднадумцы. Сталінскі фрэнч па-ранейшаму зашпілены на ўсе гузікі. Спагадліва ківаюць галовамі, па-дружбацку зазіраюць у вочы. Усмешка сыходзіць з аблічча, калі чытаюць прашэнне наведвальніка. Вочы наліваюцца алавянай шэранню, у голасе чуюцца сталёвыя ноткі:

- Вам, таварышч, трэба звярнуцца на адрас...

Кола замыкаецца. Васіль Рыгоравіч распачынае новую спробу дамагчыся справядлівасці. Звяртаецца да вышэйшых кіраўнікоў краіны.

***«Даўно няма Сталіна і Берыі, няма іх таталітарнай імперыі. А я, ахвяра генацыду, усё яшчэ застаюся бясправным «ворагам». За тое, што шчыра любіў Беларусь і за яе вызваленне кінуў на алтар змагання сваю маладосць і жыццё.***

***Колькі ж яшчэ будуць мяне пераследаваць сталінцы?***

***Пісаў ў Вярхоўны Савет (камісія па правах ахвяраў палітычных рэпрэсій), у пракуратуру Рэспублікі - глуха. Няўжо не рэабілітуюць? Няўжо рэжым, супраць якога я змагаўся, жыве і стаўленікі Цанавы яшчэ не пайшлі на пенсію? Крыўдна і балюча за Беларусь».***

**(З ліста Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіславу Шушкевічу. 21 снежня 1991 года).**

Зразумеў Васіль Супрун і тое, што былы таталітарны рэжым знаходзіць спачуванне ў шматлікіх цяперашніх чыноўнікаў. Яны не заспелі часы Сталіна. Але дзіўным чынам пераймалі пачцівасць да начальніка, павагу да цвёрдай рукі, сляпое падпарадкаванне загадам, якімі б абсурднымі яны не былі. Інтэрнацыяналісты без роду-племені, яны не зведалі болю за раскрыжаваную Беларусь, выкараненне яе мовы, фізічнае і маральнае знішчэнне лепшых сыноў і дачок. Ім не ўласцівы патрыятызм. Янычары па духу і выхаванню, гэтыя люд па-ранейшаму сцяной сталі за ўяўную веліч былога Савецкага Саюза. Збанкрутаваная палітыка СССР і яе верхаводаў дагэтуль трымае іх у сваім палоне. Яны ваяўніча бароняць любыя спробы развянчаць стэрэатыпы. Ворагам народа застаюцца для іх тыя, хто адважыўся словам і справай выступіць супраць Савецкай улады. Тэрмін даўніны ролі не грае. Змярцвелыя міфы маюць сваіх прыхільнікаў...

Юнацкі максімалізм рухаў многімі ўчынкамі сябраў падпольнай сацыял-дэмакратычнай антысавецкай групы «Чайка». Чакалі пасляваенных зменаў, а ўсталяваліся даваенныя парадкі. Вакол нахрапіста панавала расейшчына. Усё нацыянальнае, спрадвечнае аб'яўлялася варожым і рашуча выкаранялася. Сілавымі метадамі вялася калектывізацыя. Маладыя сэрцы вырашылі супрацьстаць гвалту. Былыя навучэнцы Слонімскай настаўніцкай семінарыі склалі ядро арганізацыі. Міхась Рукевіч, Міхась Чыгрын, Аляксандр Гардзейка, Уладзімір Салавей, Аляксандр Барэйка, Аляксандр Шапавал, Міхась Агейка, Мікалай Лескавец, Антон Кабак, Сяргей Яноўскі, Мікалай Макарэвіч ды іншыя разумелі смяротную небяспеку. Аднак не адступіліся. Былі вызначаны асновы канспірацыі, мэты і структура арганізацыі, напрамкі і метады практычнай дзейнасці. Асобна падкрэслівалася, што галоўным у рабоце будзе ідэйна-асветніцкі патрыятычны напрамак. Кіраўніком абралі Васіля Супруна.

Асяродкі супраціву паўсталі ў Маладзечанскай, Брэсцкай, Пінскай і Баранавіцкай абласцях. Сваім чалавекам быў адзін з супрацоўнікаў Слонімскага аддзела Міністэрства дзяржбяспекі. Да нацыянальнага руху далучаліся патрыятычныя групы. У Навагрудку аўтаномна дзейнічала падпольная арганізацыя - Саюз вызвалення Беларусі. У Глыбоцкай і Пастаўскай педвучэльнях шчырыя беларусы з'ядналіся ў Саюз Беларускіх Патрыётаў.

Аднак праз год група «Чайка» была разгромлена карнымі савецкімі органамі.

***«Пасля шасці месяцаў адзіночак, карцараў і катаванняў у баранавіцкай і менскай следчых турмах, засуджаны Ваенным трыбуналам войскаў НКУС Беларускай акругі на 25 гадоў зняволення і на пяць гадоў пазбаўлення правоў...***

***Адбыў больш за дзевяць гадоў у турмах Баранавічаў, Менска, Гродна, Оршы, у канцлагерах Інты і Воркуты. У 1956 годзе камісіяй Вярхоўнага Савета СССР вызвалены са зняццем судзімасці, вярнуўся на Радзіму. Але тут пераследы працягваюцца вось ужо 35 гадоў. Я быў пазбаўлены права працаваць па спецыяльнасці. Сакратар райкама партыі Ядыкін загадаў выкарыстоўваць мяне толькі на цяжкіх фізічных работах».***

**(З ліста Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіславу Шушкевічу. 21 снежня 1991 года).**

Пракуроры не шкадавалі абвінавачванняў. Да здрады СССР далучылі антысавецкую агітацыю. Гэтага аказалася мала і дапісалі падрыхтоўку ўзброенага паўстання з мэтай аддзялення ад Савецкага Саюза. Бракавала доказаў, бо зброі не было выяўлена. Але савецкае правасуддзе на такую «дробязь» папросту не звярнула ўвагі. 22 асобы былі асуджаны адпаведна на 25 і 10 гадоў. Многія - з канфіскацыяй маёмасці.

Лагернае жыццё Васіля Супруна - тэма асобнай гаворкі. Але нідзе і ніколі не здраджваў ён сваёй беларускасці. Як і яго землякі. У 1953 годзе, на Поўначы, зняволены ўкраінскі літаратар, прафесар Г.Кочур пасадзейнічаў у наладжванні завочнай перапіскі з Ларысай Геніюш. Малюсенькія кавалкі тоненькай паперы, «ксівы», праходзілі адмысловы шлях, перш чым трапіць у патрэбныя рукі. У халоднай, прамарожанай Інце беларускае слова падтрымлівала дух, давала надзею. Іх яднала агульная любоў да паэзіі. Сустрэча адбылася ў другой палове 50-х пасля вяртання на Беларусь. Ён неаднаразова наведваў паэтку ў Зэльве, дзе яна жыла разам з мужам Іванам Пятровічам.



Васіль Супрун

...10 студзеня 1992 года першы намеснік старшыні Вярхоўнага Суда Беларусі В.Кандрацьеў даслаў Васілю Супруну копію вызначэння судовай калегіі па крымінальных справах. Старшынствуючы Н.Германчук разам з Е.Смірновым, І.Федарынчыкам яшчэ раз разгледзелі прысуд ваеннага трыбунала войск МУС Беларускай акругі ад 21 лістапада 1947 года. Пракурор М.Шымановіч выказаў думку, што Васіль Супрун рэабілітацыі не падлягае. Судовая калегія пагадзілася з абгрунтаванасцю прысуду, вынесенага болей як пяцьдзесят гадоў таму пазасудовай інстанцыяй.

***«На гэты раз звяртаюся да Вас, не разумеючы, на падставе якой логікі і якіх Законаў Генеральная пракуратура і Вярхоўны Суд Беларусі ў 1992 годзе мне катэгарычна адмовілі ў рэабілітацыі і праве лічыцца ахвярай сталінскіх палітычных рэпрэсій. За тое, што, будучы настаўнікам ў 1946-1947 гадах, я ўзначальваў антысталінскае беларускае патрыятычнае падполле сацыял-дэмакратычнага накірунку, якое змагалася за правы беларускага народа на сваёй зямлі свабодна карыстацца роднай мовай і сваімі школамі, права бараніць ад гвалтоўнага знішчэння сваю культуру, гістарычную спадчыну і чалавечую годнасць...»***

**(З ліста прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Лукашэнку А.Р. 28 лютага 1995 года).**

Аўтар ліста нагадвае, што ўсе сябры падполля былі рэабілітаваныя ў 70-я гады. У адносінах жа да Васіля Супруна Вярхоўны Суд Беларусі папросту прадубліраваў прысуд берыеўскага трыбуналу і адмовіў у рэабілітацыі. Яшчэ ў часы СССР была знята яго судзімасць з-за неабгрунтаванасці прысуду. Тады чые інтарэсы бароніць Вярхоўны Суд сучаснай Беларусі? Няўжо сталінска-берыеўскі, паўторна судзячы патрыётаў, аднаўляючы практыку навешвання цэтлікаў «ворагаў народа»?

Можна зразумець роспач былога настаўніка. Яны змагаліся за суверэнную самастойную Беларусь, супраць бесцырымоннага ўціску з боку ўсходняга суседа, за годнасць нацыі. Мэты колішняга падпольнага патрыятычнага руху цяпер знайшлі сваё месца ў Канстытуцыі. Увесь гэты прапагандысцкі арсенал шырока выкарыстоўваюць у публічных выступленнях кіраўнікі дзяржавы. У такім разе лагічна і тое, што былыя змагары за Бацькаўшчыну павінны быць абвешчаны нацыянальнымі героямі. Але на практыцы, як бачым, ажыццяўляецца зусім іншае. Той жа першы намеснік Генеральнага пракурора Беларусі В.Кандрацьеў, вяртаючы Васілю Супруну дасланыя даведкі, заключае: **«З прынятым рашэннем Пракуратура Рэспублікі Беларусь згодна».** Хіба мы па-ранейшаму жывём у СССР і ўсяляк абараняем найбольш злачынныя каштоўнасці Савецкай улады?

Амаль пяць гадоў былы палітычны вязень сталінскіх лагераў, аўтар некалькіх паэтычных зборнікаў сланімчанін Васіль Супрун чакае прэзідэнцкага вердыкту. Аднак маўчыць «апошняя інстанцыя і надзея».

**Антон Лабовіч**

# Green card для беларусаў

**Амбасада ЗША ў Беларусі абвясціла, што з 12.00 4 кастрычніка па 12.00 3 лістапада 1999 года будуць прымацца заявы на ўдзел у латэрэі іміграцыйных віз у ЗША.**

Заявы трэба дасылаць на адрас: DV-2001 Program National Visa Center Portsmouth, NH 00212 U.S.A. На левым верхнім куце стандартнай капэрты (15-25 см даўжынёй і 9-11 см шырынёй) трэба напісаць назву сваёй роднай краіны, сваё імя і поўны адрас, напрыклад: Belarus Karatkevich, Aliena Skaryny 5/22 Minsk BELARUS. Заяву трэба дасылаць звычайнай поштай ці авіяпоштай (але не экспрэс-поштай). Заявы, атрыманыя да 4 кастрычніка і пасля 3 лістапада, разглядацца не будуць.

Удзельнікі латэрэі мусяць мець як мінімум сярэднюю адукацыю ці стаж кваліфікаванай працы. У заяве трэба надрукаваць ці напісаць друкаванымі літарамі на англійскай мове наступную інфармацыю: поўнае імя, месца нараджэння, родную краіну заяўніка, імёны мужа/жонкі і дзяцей заяўніка, поўны паштовы адрас, асабісты подпіс і фотаздымак заяўніка 37 на 37 міліметраў, зроблены нядаўна і прыклеены да заявы празрыстай стужкай (нельга выкарыстоўваць клей ці сашчэпкі).

Пераможцаў выбярэ камп'ютар у адвольным парадку. Усе яны атрымаюць паведамленні ад Нацыянальнага візавага цэнтра ўвесну — напачатку лета 2000 года. Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць у аховіжкай амбасады ЗША па адрасе: Менск, вул. Старавіленская 46, з 9.00 да 17.00.

**Аляксандр Абрамовіч**

# Амерыка запрашае кемлівых

**Інфармацыйная служба амбасады ЗША ў Беларусі (USIS) абвясціла аб пачатку новага цыкла адукацыйных праграм у ЗША на 1999-2000 год, якія фінансуюцца ўрадам гэтай краіны. Да ўдзелу ў праграмах запрашаюцца грамадзяне Беларусі, якія валодаюць англійскай мовай.**

На сённяшні дзень, заявы прымаюцца на наступных праграмах:

**— Конкурс стыпендый імя сенатара Фулбрайта** (для грамадзян Беларусі, якія выкладаюць у ВНУ і займаюцца навукова-даследніцкай дзейнасцю, а таксама маюць ступень кандыдата ці доктара навук). Заявы прымаюцца да 29 кастрычніка.

**— Праграма «Актуальныя пытанні сучаснасці»** (для супрацоўнікаў урадавых установаў, кіраўнікоў няўрадавых арганізацый і прадстаўнікоў іншых прафесійных аб'яднанняў). Заявы прымаюцца да 29 лістапада.

**— Праграма навуковага абмену «Рэгіянальныя навукоўцы»** (для спецыялістаў, якія працуюць над кандыдацкай дысертацыяй і для іншых навуковых даследнікаў). Заявы прымаюцца да снежня.

**— Конкурс стыпендый імя сенатара Эдмунда Маскі** (для студэнтаў апошняга курса ВНУ і асобаў з вышэйшай адукацыяй). Заявы прымаюцца да 29 кастрычніка.

**— Праграма студэнцкіх абменаў «Акт у падрымку свабоды»** (для студэнтаў першых трох курсаў ВНУ Беларусі). Заявы прымаюцца да 10 лістапада.

**— Праграма школьных абменаў «Акт у падрымку свабоды»** (для старшакласнікаў сярэдніх школ).

Пасля заканчэння кожнай праграмы, удзельнікі мусяць вярнуцца на радзіму на перыяд не меншы за два гады. Яны не могуць вучыцца ці працаваць у ЗША на працягу гэтага тэрміну.

Дадатковую інфармацыю можна атрымаць па наступных тэлефонах:

— USIS Менск (017) 217-88-28 — IREX Менск (017) 226-06-87 — ACCELS Менск (017) 236-68-83;

— Менскі інфармацыйна-адукацыйны цэнтр (017) 284-08-52;

— Брэсцкі інфармацыйна-адукацыйны цэнтр (0294) 77-15-84;

— Віцебскі інфармацыйна-адукацыйны цэнтр (0212) 37-83-42;

— Гомельскі інфармацыйна-адукацыйны цэнтр (0232) 53-29-10;

— Гарадзенскі інфармацыйна-адукацыйны цэнтр (0152) 33-54-51.

**Аляксей Знаткевіч**

# Кніжны клуб ТБМ

**Ці чыталі Вы апавяданне Сэра Артура Конан Дойла, стваральніка славутых «Запісак пра Шэрлака Холмса», прысвечанае падзеям вайны 1812 года на тэрыторыі Беларусі - «Як брыгадзір Жарар трапіў у Менск»?**

Ці ведаеце, што аўтарству Яраслава Гашака належыць не толькі эпапея пра ўдалага салдата Швейка, але і апавяданне пра беларускую гасціннасць - «Госці ў хату»?

Ці казалі Вам у школе, што рускі пісьменнік Аляксандр Пушкін стварыў вобраз свайго Дуброўскага, грунтуючыся на беларускім характары, спісаным з канкрэтнай гістарычнай асобы?

Ці чулі Вы, што апошнім пісьменніцкім клопатам выбітнейшага нямецкага паэта і драматурга мяжы 18-19 стагоддзяў Фрыдрыха Шылера была гістарычная драма, героем якой з'яўляўся слынны беларус - гістарычная постаць еўрапейскай велічыні - Леў Сапега?

Вам усё гэта ў навіну? Нічога. Пры наяўнасці каліва вольнага часу, пра гэта і многае іншае Вы можаце даведацца ў Кніжным клубе Таварыства беларускай мовы, сустрэчы якога вось ужо два месяцы ладзяцца ў беларускай сталіцы.

Галоўнаю мэтаю клуба ёсць пашырэнне беларускай кніжнасці шляхам рэалізацыі шэрагу праектаў, сярод якіх: «Кніганоша» -дапамога ў набыцці з найменшымі выдаткамі вартасных беларускіх выданняў і замежных выданняў пра Беларусь, абмен букіністычнай літаратурай паміж калекцыянерамі беларускай кнігі, супрацоўніцтва з беларускімі Творцамі Літаратуры, вандроўкі па літаратурных мясцінах Беларусі, асваенне беларускай літаратурай у перакладах і ў арыгінале прастораў Інтэрнэту ды інш.

Адным з цікавейшых праектаў Кніжнага клуба Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны з'яўляецца стварэнне бібліятэчкі раритэтаў. Ужо зараз бібліятэчка пачала адлік другой сотні кніг і, дзякуючы зычліўцам ТБМ, мае некалькі дзесяткаў старых беларускіх выданняў 10-30-ых гадоў, з геаграфіяй друку ад Вільні да Варшавы і Масквы. Тут і першая кніга беларускага класіка Максіма Гарэцкага - «Рунь» (1914 г.), кнігі Уладзіслава Галубка, Уладзіміра Жылкі, Францішка Аляхновіча, Антона Луцкевіча, Адама Станкевіча,.., кнігі, што ў свой час належалі Віленскай беларускай гімназіі (!)... Мае бібліятэчка і рэдкія мюнхенскія выданні 50-ых гадоў песняроў зямлі беларускай - Янкі Купалы і Якуба Коласа, кнігі эміграцыйнай беларускай паэзіі і прозы, кнігі з аўтографамі папулярных сучасных беларускіх пісьменнікаў (нельга не згадаць добрым словам Уладзіміра Арлова)...

Усё гэтае багацце можна было пабачыць, патрымаць у руках, пагартаць на адкрыцці Бібліятэкі Кніжнага клуба Таварыства беларускай мовы - у нядзелю, 12 верасня.

Ласкава запрашаем прыняць удзел у фармаванні бібліятэкі пры Кніжным клубе Таварыства беларускай мовы. Дзякуючы Вам бібліятэка папоўніцца новымі вартаснымі беларускімі выданнямі, а таксама замежнымі выданнямі пра Беларусь.

Будзем рады бачыць Вас і на сустрэчах Кніжнага клуба ТБМ. **Менскі тэлефон для даведак і прапаноў: 84-85-11.**

Адрас Кніжнага клуба ТБМ: 220005, Менск, вуліца Румянцава, 13.

**Зміцер Цехановіч**

